Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Галоўны рэдактар Ігар Гермянчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Наклад 18 300.
Адрас для карэспандэнцыі:
220088, г.Мінск,вул. Іванаўская, 56.
Тэл/факс: 236-24-41

# НАВІНЫ

Пятніца, 20 сакавіка 1998 г. | № 28 | Кошт свабодны

# СВАБОДА

Забаронена 24 лістапада 1997 г.

## У нядзелю — свята БНР

Часы, калі ўвесь «шматмільённы савецкі народ» дружна адзначаў адзіныя для ўсіх святы, засталіся ў мінулым. Цяпер у кожнай постсавецкай краіны — свае святы. А калі брацЬ Беларусь, дык адна са своеасаблівасцяў нашага сучаснага жыцця ў тым, што адметныя дні, якімі азначаныя розныя гістарычныя падзеі, выклікаюць дыяметральна супрацьлеглыя ацэнкі і меркаванні. Не з'яўляецца выключэннем і 80-гадовы юбілей БНР, які прыпадае на 25 сакавіка.

*«Лідэры БНР: 80 гадоў супраць народа»*, — буйнымі літарамі сцвярджаецца ва ўчарашнім нумары афіцыёзнай «Народнай газеты». *«Вяртанне БНР — наш гістарычны шанец»*, — лічыць Зянон Пазьняк.

Гэта — скрайнія пункты погляду. Але ўся дэмакратычная апазіцыя, якая не прымае цяперашняга рэжыму і дамагаецца адстаўкі дыктатара, збіраецца адзначыць 80-я ўгодкі БНР. **У нядзелю, 22 сакавіка, у Мінску адбудуцца дазволеныя ўладамі святочныя мерапрыемствы** (збор удзельнікаў а 12-й гадзіне на плошчы Я.Коласа, шэсце — да Опернага тэатра, дзе і адбудзецца мітынг). Нацыянальны аргкамітэт па святкаванні Дня незалежнасці заклікае людзей з розных рэгіёнаў краіны прыехаць у гэты дзень у сталіцу і прыняць удзел ва ўрачыстасцях. Шэраг мерапрыемстваў пройдзе і ў іншых гарадах Беларусі, а таксама ў Вільні, Нью-Йорку, Варшаве, Маскве — паўсюль, дзе жыве беларуская дыяспара.

Падчас апошняй сустрэчы з журналістамі Лукашэнка заклікаў апазіцыю: «Ну, адзначце гэта па-людску!» Што ж, пастараемся.

**Вадзім КАЗНАЧЭЕЎ, Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

## Беларусь набліжаецца да NATO?

**Савет міністраў выдаў пастанову аб адкрыцці ў Брусэлі пастаяннага прадстаўніцтва Беларусі пры *NATO*. Мяркуецца, што яго ўзначаліць ваенны аташэ беларускай амбасады ў Бельгіі Анатоль Кастэнка.**

Як вядома, афіцыйны Мінск сапсаваў адносіны з усімі еўрапейскімі структурамі пасля антыканстытуцыйнага рэферэндуму. Адкрыццё прадстаўніцтва *NATO* яшчэ не азначае паляпшэнне ва ўзаемаадносінах з заходнімі краінамі. На ўчарашнім брыфінгу намеснік міністра замежных справаў Мікалай Бузо падкрэсліў, што ў нас не будзе нейкай асобнай установы, і патлумачыў з'яўленне прадстаўніцтва ўдзелам Беларусі ў сумеснай з *NATO* праграме «Партнёрства дзеля міру». Па словах Бузо, *«нам хочацца не праз пасрэднікаў, а напрамую атрымаць гарантыі бяспекі»*.

У кастрычніку мінулага года генсек Паўночнаатлантычнага альянсу Хаўер Салана меўся прыехаць у Беларусь. Аднак візіт быў перанесены на няпэўны тэрмін у сувязі з рашэннем Еўрасаюза аб увядзенні санкцыяў адносна Беларусі. Дату прыезду Саланы ў Мінск пакуль не могуць назваць у МЗС, гэтак жа як час падпісання «спецыфічнага» пагаднення аб супрацоўніцтве з *NATO*.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

## Шарэцкага прызнаюць

**Арганізацыя па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе (АБСЕ) запрасіла дэлегацыю Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 13-га склікання ўдзельнічаць у 7-й штогадовай сесіі Асамблеі, якая пройдзе з 7 па 10 ліпеня ў Капенгагене.**

Аб гэтым гаворыцца ў запрашэнні, якое атрымаў старшыня Вярхоўнага Савета Сямён Шарэцкі. Запрашэнне ад імя старшыні Парламенцкай Асамблеі АБСЕ Хав'ера Рупераса падпісаў генеральны сакратар гэтай міжнароднай арганізацыі Р.Спенсер Олівер.

На думку С.Шарэцкага, такім чынам АБСЕ яшчэ раз пацвердзіла сваю пазіцыю ў адносінах да Вярхоўнага Савета 13-га склікання як адзінага легітымнага заканадаўчага органа Беларусі.

*БелаПАН*

## «Звычайнага прэзідэнта» пабачылі чэхі

**Па запрашэнні чэшскай Хартыі-77 кінарэжысёр Юрый Хашчавацкі і рэжысёр мінскага тэатра «Вольная сцэна» Валерый Назынскі на мінулым тыдні наведалі Прагу.**

Паездка была прымеркаваная да паказу фільма Ю.Хашчавацкага «Звычайны прэзідэнт» па другім канале чэшскага тэлебачання. Некалькі дзён запар па TV ішлі анонсы гэтага фільма, а напярэдадні прэм'еры адбылася прэс-канферэнцыя Хашчавацкага для журналістаў чэшскіх і заходніх СМІ. Пасля паказу «Звычайнага прэзідэнта» яго аўтар выступіў у прамым эфіры самай папулярнай у Чэхіі інфармацыйна-аналітычнай тэлепраграмы і распавёў шматмільённай чэшскай тэлеаўдыторыі аб становішчы ў Беларусі.

Хашчавацкі і Мазынскі як прадстаўнікі беларускай Хартыі-97 сустрэліся ў Празе з храніцелямі чэшскай Хартыі-77. Чэшскія калегі паведамілі беларусам, што ўсе асобы, якія ў 1977 годзе падпісалі гэтую праваабарончую канвенцыю, выказалі жаданне далучыцца да Хартыі-97. Іхнія подпісы ў бліжэйшы час будуць урачыста перададзеныя ў Празе прадстаўнікам беларускай Хартыі.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

# Загад — «знізіць курс»

**Беларусь выходзіць з валютнага крызісу вельмі простым шляхам: прэзідэнт Лукашэнка загадаў знізіць да 20 сакавіка курс долара на наяўным рынку да 42.000 рублёў.**

Распараджэнне прэзідэнта паведаміў банкірам старшыня праўлення Нацыянальнага банка Генадзь Алейнікаў на нарадзе 17 сакавіка з удзелам кіраўнікоў камерцыйных банкаў. Маўляў, прэзідэнт перакананы, што ва ўсім павінны камерцыйныя банкі, якія паддаліся паніцы і сталі наўмысна завышаць курс замежнай валюты ў абменных пунктах і на міжбанкаўскім рынку, таму ім і даручаецца выправіць становішча.




Зразумела, што беларускія банкі былі вымушаныя падпарадкавацца волі Рыгоравіча, і ўжо ў аўторак курсы ў абменных пунктах не былі вышэй за 47.000 рублёў за долар, у сераду — 45.000 рублёў, у чацвер — 43.000. Зразумела, што «чорны» рынак не звяртае вялікай увагі на загады Рыгоравіча, таму ў гэтыя дні кошт долара ў валютчыкаў знаходзіўся на ўзроўні 48.000—49.000 рублёў. У выніку, на рынку аднавілася становішча, якое назіралася да снежня мінулага года — купіць валюту ў абменных пунктах проста немагчыма.

Яшчэ больш складаная сітуацыя назіраецца на міжбанкаўскім валютным рынку, дзе гандлююць безнаяўнымі доларамі. Там працягваюцца рэзкія хістанні каціровак. Напрыклад, у аўторак курс долара рэзка падняўся да 60.000 рублёў, пасля чаго ў сераду таксама рэзка абваліўся да 53.000—54.000 рублёў. І хутчэй за ўсё гэтыя хістанні будуць працягвацца.

Рэч у тым, што спробы атрымаць расійскія грошы на падтрымку беларускага рубля скончыліся няўдачай. Беларускай дэлегацыі адмовілі і Дубінін (кіраўнік расійскага Цэнтрабанка), і Чубайс. Прыйшлося вяртацца з Масквы ні з чым. Калі ж Аляксандр Лукашэнка вырашыў сам заняцца справай выбівання грошай, яму было адмоўлена ў сустрэчы з Ельцыным па прычыне хваробы апошняга. Дарэчы, хвароба не замінае расійскаму кіраўніку сустракацца з людзьмі, асабліва з тымі, якія не просяць грошай.

**Алесь САДОЎСКІ**

Прэм'ер Сяргей Лінг сустрэўся з журналістамі, каб патлумачыць прычыны фінансавага крызісу, даць справаздачу аб прынятых захадах па яго спыненні і запэўніць, што росту коштаў урад не дапусціць.

Прычыны абвалу беларускага рубля Лінг ведае: *«Гэта была яўная палітычная акцыя»*, — заявіў ён. Па словах Лінга, нагу беларускаму рублю падставілі праціўнікі інтэграцыі, якія *«перанеслі свае варожыя дзеянні з палітычнага на эканамічнае поле»*.

Ужо пачалі разбірацца з тымі, хто падняў кошты на тавары. Па словах прэм'ера, пакараныя 488 адказных работнікаў, сярод іх два міністры. Магазінам загадалі не прымаць тавары, кошты на якія беспадстаўна павысіліся за апошнія дні. *«Цэны мы вернем назад і абвальнага павелічэння не дапусцім»*, — гарантаваў Лінг. Між тым, ён прызнаў, што паступовае павышэнне цэнаў ішло і будзе ісці, у адпаведнасці з інфляцыяй. *«Але раней за цэны будуць расці заробкі»*, — запэўніў Сяргей Лінг.

Цікавыя прызнанні прагучалі наконт узаемаадносінаў з Расіяй. Аказваецца, інтэграцыя з Расіяй — гэта суцэльныя прэтэнзіі, канфлікты ды непаразуменні. Толькі што Беларусь атрымала ад сваёй саюзніцы чарговы падарунак (пэўна да гадавіны «саюза двух»): на 30% скарачаюцца пастаўкі газу. Беларусь вінна Газпраму ўжо амаль 200 мільёнаў долараў, але грошай не плаціць, таму яе і вырашылі пакараць.

Умовы мытнага саюза таксама не выконваюцца: *«Устанавілі перад Смаленскам пасты і абкладаюць падаткамі тых, з каго мы ўжо ўзялі што трэба»*. Мала таго, у Беларусі патрабуюць пералічыць у расійскую казну тыя 40 мільёнаў долараў падаткаў, якія беларускія мытнікі сабралі ў мінулым годзе з гандляроў, што едуць у Расію. *«Да нас праз Расію таксама едуць, з той жа Японіі»*, — узгадаў беларускі прэм'ер, які, пэўна, яшчэ знаходзіцца пад уражаннем алімпіяды ў Нагана. Карацей кажучы, нам не плацяць, і мы пачакаем.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

# Пра што людзі пішуць прэзідэнту

Ёсць у нашай краіне такі шчаслівы чалавек, які атрымлівае лісты на сваё імя цэлымі мяхамі. А імя гэтага шчаслівага — Аляксандр Лукашэнка. За мінулы год ён атрымаў ажно 37 тысячаў 335 лістоў — больш, чым па сто на дзень.

Канешне, мы добра разумеем, што чытаць чужыя лісты — кепска і вельмі некультурна. Але раскрыем невялікую таямніцу: прэзідэнт у нас — чалавек заняты, амаль увесь час у яго займае спорт, а таксама дзяржаўныя справы. Вось і даручае ён чытаць адрасаваную яму пошту людзям са сваёй адміністрацыі. А тыя потым рыхтуюць спецыяльную даведку, каб Аляксандр Рыгоравіч ведаў, з кім жа ён перапісваўся, каму што пісаў і г.д. Рэдакцыі нашай газеты ўдалося атрымаць копію такой даведкі (за 1997 г.), якая падпісаная шэфам адміністрацыі Мясніковічам.

Пра што ж людзі пішуць прэзідэнту?

Амаль усе скардзяцца на жыццё. Замест таго, каб нечым парадаваць Аляксандра Рыгоравіча, пішуць пра кепскую працу райвыканкама альбо ЖЭСа. А то і проста пра суседзяў, якія дапяклі.

Як вынікае з даведкі, на першым месцы ў рэйтынгу зваротаў да прэзідэнта пытанні, што так ці інакш датычацца жылля. Адзін піша, што дваццаць гадоў не даюць кватэру, а другі не можа жыць без лазні, якая ўжо некалькі гадоў была закрытая на рамонт у Гомелі. Відаць, больш няма каму паскардзіцца, што лазня не працуе — вось і пішуць прэзідэнту. А той мусіць кінуць свой любімы спорт (альбо думкі пра будучыню Беларуска-Расійскага саюза) і сам заняцца яе рамонтам.

На другім месцы — скаргі на дзейнасць судоў і праваахоўных органаў. Болей 7.000 чалавек выказалі ў лістах сваю незадаволенасць судамі, следствам або вынесеным прысудам. 867 чалавек звярнуліся да прэзідэнта з просьбай аб памілаванні, амністыі альбо датэрміновым вызваленні. Але дарэмна. Як мы ўжо паведамлялі, Аляксандр Лукашэнка яшчэ ні разу нікога не памілаваў.

Трэцяе месца па шкале заклапочанасці беларусаў займае сацыяльная абарона і пытанні, звязаныя з аплатай працы, — болей за 6.400 чалавек напісалі пра гэта прэзідэнту. Людзі скардзяцца на несвоечасовую выплату заработнай платы, пенсіяў, дапамогаў па інваліднасці і г.д. Ясна, што падобныя лісты павінен чытаць нехта іншы, а не Рыгоравіч. Бо прэзідэнт перакананы і хваліцца нават расіянам, што ў Беларусі нічога такога няма. Было б проста бесчалавечна пазбаўляць яго такой светлай ілюзіі.

Паасобку стаяць лісты да Лукашэнкі ад жыхароў іншых краінаў. Летась Аляксандр Рыгоравіч атрымаў 2.123 лісты з далёкага і блізкага замежжа, што амаль удвая больш, чым у 1996 годзе. СНДоўцы пішуць Лукашэнку, каб падтрымаць ягоныя намаганні па аднаўленні СССР, некаторыя нават просяцца пажыць у цудоўную краіну Беларусь. «Далёкія» замежнікі крытыкуюць палітыку прэзідэнта і патрабуюць ад яго захоўваць правы чалавека, вызваліць палітычных вязняў і г.д. Але складальнікі даведкі берагуць прэзідэнцкія нервы і тактоўна не ўзгадваюць у даведцы пра такія лісты.

Пазнаёміўшыся з даведкай, так і хочацца сказаць: людзі! Пашкадуйце вы Аляксандра Рыгоравіча! Не пішыце яму, што ў вас цяжкае жыццё, няма кватэры, зарплату не плацяць, працёк кран і збег сабака! Лепш парадуйце яго нечым добрым, светлым, каб яму было прыемна чытаць. Тады, можа, ён палюбіць вас. А вы яго. І ўсё будзе добра!

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

## А.Лукашэнка: «Сядуць усе...»

**Па словах А.Лукашэнкі за апошні час у Беларусі арыштаваныя 58 чалавек «з вялікімі партфелямі».**

Так заявіў прэзідэнт на сустрэчы з журналістамі 17 сакавіка. Рыгоравіч пакуль не ведае, колькі чалавек яшчэ *«пацягнуць за сабой гэтыя людзі»*, аднак, ён запэўніў: *«сядуць усе, хто вінаватыя»*. Пры гэтым А.Лукашэнка лічыць, што *«тут няма ніякай дыктатуры, ніякага аўтарытарызму»*. Менавіта гэтыя людзі, на думку прэзідэнта, *«паліваюць яго граззю і спрабуюць шантажыраваць»*. Прэзідэнт таксама ўпэўнены, што Беларусь выйдзе з крызісу раней за іншыя краіны, паколькі ў нас *«няма вялікіх жулікаў, якія раскрадаюць дзяржаву»*.

*БелаПАН*

# Рэдкі выпадак

*Суд апраўдаў дэпутата і журналіста Валерыя Шчукіна*

Яго судзілі ў мінулую серараду ў Ленінскім райсудзе г.Мінска. Шчукін абвінавачваўся ў тым, што арганізаваў несанкцыянаваны мітынг каля будынка Мінскага абласнога суда, дзе судзілі Аляксея Шыдлоўскага і Вадзіма Лабковіча. Акрамя таго, міліцыянты сцвярджалі, што ён аказаў супраціўленне падчас затрымання. Аднак, заслухаўшы супярэчлівыя паказанні ахоўнікаў парадку, а таксама сведак з боку дэпутата, суддзя Царашкова прыйшла да высновы, што Шчукін ніякіх мітынгаў не арганізоўваў. Як журналіст ён проста цікавіўся думкамі людзей, што сабраліся каля суда, адносна вынесенага хлопцам прыгавору, і падначаленыя намесніка начальніка Ленінскага РАУС маёра Міклуша не мелі ніякага права затрымліваць Шчукіна.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

# Адамовіч, Хадыка, Шарамет і іншыя ствараюць Беларускую асацыяцыю вязняў

Сёння ў Беларусі ніводзін грамадзянін не можа адчуваць сябе дастаткова абароненым. Улады сістэматычна парушаюць правы грамадзянаў на свабоду слова, сходаў, дэманстрацыяў. Разбураюцца эканоміка, культура, традыцыі беларускага этнасу, нацыянальная беларуская школа, падае ўзровень жыцця людзей. Пад уздзеяннем вонкавых і ўнутраных антыбеларускіх сілаў ідзе разбурэнне Беларусі як незалежнай дзяржавы.

Ужо тысячы людзей пацярпелі ад рэпрэсіяў рэжыму — былі збітыя ў час мірных акцыяў пратэсту, аштрафаваныя на вялікія сумы грошай, кінутыя за краты, мусілі з'ехаць у эміграцыю.

Прычына палягае ў тым, што ў 1994 годзе да ўлады прыйшоў рэжым, няздольны не толькі вырашыць праблемы краіны, але нават зразумець іх. Замест працы па вывадзе Беларусі з крызісу народу прапануюць бясконцыя авантуры, якія яшчэ больш пагаршаюць становішча. Каб схаваць сваю няздольнасць кіраваць незалежнай краінай, рэжым спрабуе адных людзей абалваніць, а другіх запалохаць. Усё часцей гэта спрабуюць зрабіць праз жорсткі крымінальны перaслед — людзей без законных на тое падставаў кідаюць у турмы. Цяпер у следчым ізалятары Мінска ўтрымліваюцца Аляксей Шыдлоўскі, Вадзім Кабанчук.

У гэтых умовах мы, людзі, якія аднойчы ўжо прайшлі праз пераслед уладаў, вырашылі стварыць Беларускую асацыяцыю вязняў лукашэнкаўскага рэжыму.

Нашыя мэты: дапамога ўсім людзям, якія пацярпелі ад рэпрэсіяў з 1994 года да цяперашняга часу; падтрымка палітычных зняволеных і іх сем'яў; інфармаванне міжнароднай супольнасці пра парушэнні правоў чалавека ў Беларусі.

**Славамір АДАМОВІЧ, Аляксандр БОНДАРАЎ, Дзмітрый ЗАВАДСКІ, Аляксей КАВАЛЬ, Рыгор КІЙКО, Вадзім ЛАБКОВІЧ, Уладзімір ЛЫСКО, Анатоль САРОКІН, Вячаслаў СІЎЧЫК, Юрый ХАДЫКА, Аляксандр ЦІШУК, Павел ШАРАМЕТ** *(Усіх зацікаўленых просім звяртацца па тэл.: 233-50-12)*

# Чырвоны мэр супраць праваслаўнай капліцы

**Ужо не першы месяц праваслаўныя вернікі Бабруйска змагаюцца з гарадскімі ўладамі, каб тыя дазволілі ім закончыць будоўлю капліцы побач з могілкамі на вуліцы Мінскай.**

Летась Бабруйскі гарвыканкам дазволіў вернікам будаваць капліцу. Людзі ахвяравалі свае грошы (больш за паўмільярда рублёў), і цяпер фундамент будынка ўжо гатовы. Але чатыры месяцы таму будоўля спынілася, і пакуль невядома, ці будзе яна калінебудзь працягнутая.

Будучая капліца прыйшлася не даспадобы бабруйскім «кандовым» камуністам. Бабруйскі гарком КПБ прыняў заяву, у якой выказвае гарачы пратэст супраць узвядзення капліцы. Камуністы тлумачаць сваё абурэнне тым, што капліца будуецца побач з брацкай магілай савецкіх воінаў, якія вызвалялі горад ад гітлераўцаў. Сярод воінаў, маўляў, было шмат камуністаў і камсамольцаў, і ставіць капліцу побач з іхняй магілай — гэта «кашчунства і здзек». Акрамя таго, пачуцці камуністаў вельмі крыўдзіць хрысціянскі крыж, які будзе красавацца над капліцай, бо «пад такімі ж крыжамі фашысцкія акупанты знішчалі савецкіх людзей і раздзіралі нашу Беларусь». Камуністы патрабуюць ад уладаў забараніць будаваць капліцу і заклікаюць «спыніць рэлігійнапалітычны разгул, уседазволенасць і антыканстытуцыйныя дзеянні праваэкстрэмісцкіх палітычных сілаў і рэлігійных аб'яднанняў» у Бабруйску.

Як сведчыць мясцовая газета «Камерцыйны кур'ер», у бабруйскую партыйную арганізацыю КПБ уваходзіць усяго каля сотні чалавек, большасць з іх — людзі сталага ўзросту. Здавалася б, якія сур'ёзныя перашкоды можа стварыць невялічкая групка пенсіянераў з пэўнымі палітычнымі перакананнямі? Але ўся справа ў тым, што старшыня Бабруйскага гарвыканкама Уладзімір Раманоўскі — член КПБ.

Спачатку ён катэгарычна забараніў працягваць будоўлю, якую сам калісьці дазволіў. Але пад ціскам вернікаў, якія заручыліся падтрымкай старшыні Магілёўскага аблвыканкама А.Кулічкова, бабруйскаму мэру давялося змяніць сваё рашэнне. Цяпер ён ужо не супраць самой капліцы, а толькі супраць яе памераў: няхай бы яна была ў два разы меншая — і ўсё добра. Але як можна на ўжо гатовым фундаменце паставіць капліцу ўдвая меншую, гэта ўжо яго не турбуе.

Будзем спадзявацца, што вернікам удасца знайсці ўправу на чырвонага мэра. Калі яны ўжо дайшлі да «губернатара» вобласці, то і вышэй узняцца могуць, да прэзідэнта дайсці як да «адзінаверца» — ён жа праваслаўны, хоць і атэіст. А з прэзідэнтам лепей не звязвацца. Пакуль жа будоўля стаіць, і ад таго, ці ўдасца Раманоўскаму сумясціць свае ідэйныя перакананні з пасадай мэра Бабруйска, залежыць далейшы лёс капліцы.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

# Сёння – Дзень Бомбы

**Нядаўна Беларускае тэлебачанне паспрабавала напалохаць свет «забойным» матэрыялам пра тое, што ў Беларусі ёсць усе магчымасці распачаць вытворчасць уласнай ядзернай зброі. Ініцыятыву айчыннай тэлевізіі горача падтрымаў «Грамадзянскі форум» — маладзёжная арганізацыя Аб'яднанай грамадзянскай партыі.**

«Чым больш у жыцці святаў, тым яно больш вясёлае!» — вырашылі маладыя лібералы. І пастанавілі: абвясціць 20 сакавіка святочным днём — і з гэтай нагоды правесці цэлы комплекс мерапрыемстваў пад агульнаю назваю «Дзень Бомбы». Чаму менавіта 20 сакавіка? «А чаму б і не?» — слушна адказалі маладыя лібералы.

Свята сапраўды абяцала быць вясёлым. Планаваліся народныя гулянні ад традыцыйнага месца сталічных мітынгаў — Опернага тэатра — з заходам у амбасады ЗША, Расіі і Вялікабрытаніі. А пасля абеду меркаваўся паход у пасёлак Сосны, дзе знаходзіцца Інстытут ядзернай энергетыкі (той самы, які, па версіі БТ, і прызваны стаць рассаднікам адпаведнай зброі ў Беларусі). Як паведаміла прэсслужба «Грамадзянскага форуму», у Соснах «павінна было адбыцца грандыёзнае, непаўторнае і загадкавае шоў «Атамная феерыя». Маладыя лібералы збіраліся правесці карнавальнае шэсце — з тэатралізаванай дзеяй, прыбамбасамі накшталт цацкавых бомбаў і грозным лозунгам «Бомбу — у масы!»

Але Мінгарвыканкам, не абцяжарваючы сябе матывацыяй, шэсце па Мінску не дазволіў. Тым не менш, паход па амбасадах усё ж адбудзецца — праўда, ужо не ў форме шэсця. «Грамадзянскі форум» падрыхтаваў петыцыі, у якіх просіць Б.Клінтана, Б.Ельцына і Т.Блэра пацвердзіць абавязацельствы сваіх дзяржаваў быць гарантамі бяспекі Беларусі. Дамоўленасць з амерыканскай і брытанскай амбасадамі наконт прыёму маладых лібералаў была дасягнутая папярэдне.

Нарэшце, хацелася б спадзявацца, што гэта была не апошняя спроба апазіцыйнай моладзі шукаць новыя формы правядзення мерапрыемстваў і прыцягнення ўвагі да грамадскіх праблемаў. Традыцыйныя сумныя мітынгі, трэба прызнацца, ужо досыць надакучылі.

**Вадзім КАЗНАЧЭЕЎ**

# Давай зарплату!

**На Магілёўскім электрарамонтным заводзе адбыўся стыхійны мітынг.**

Гэты завод у асноўным працуе з калгасамі ды саўгасамі — рамантуе электрарухавікі, трактарнае электраабсталяванне. За апошнія два месяцы на заводзе назапасілася прадукцыі на 4,5 млрд. рублёў. Уся яна павінна была ўжо даўно патрапіць у калгасы і саўгасы, але тыя не маюць грошай расплаціцца. У выніку церпяць рабочыя. Як паведаміла кіраўнік прафкама завода Наталля Жыгунова, большасць рабочых атрымалі «смешныя» заробкі. Яна, напрыклад, атрымала толькі 1,5 мільёна рублёў.

Мітынгавала каля 100 чалавек з 300 работнікаў завода. Людзі патрабавалі годных заробкаў і выказвалі незадаволенасць адміністрацыяй прадпрыемства. Хваляванні рабочых удалося пагасіць дзякуючы таму, што абласныя ўлады знайшлі 1,75 млрд. рублёў на першасныя патрэбы. Але праблему гэта не вырашае. Наталля Жыгунова лічыць, што хваляванні на заводзе могуць паўтарыцца.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

# Канкурэнцыя за прылаўкам

*Пра соль, гарэлку і прыватызацыю*

Прыватызацыя ў Беларусі пачыналася з Захаду: спачатку ў Брэсце, следам у Гродне. З канца 1991 года ў Гродне адбылося 25 аўкцыёнаў, на якіх было прададзена 109 аб'ектаў гарадской маёмасці, крыху больш за палову з іх — крамы.

З прыходам да ўлады Лукашэнкі прыватызацыя камунальнай маёмасці з кожным годам запавольвалася. Гродна ў гэтым сэнсе — не выключэнне. У леташнюю праграму прыватызацыі былі ўнесеныя ўсе яшчэ не распрададзеныя аб'екты гарадской «камуналкі», але прадаць усё не ўдалося. А цяпер увогуле перадумалі спяшацца. «Стопрацэнтная прыватызацыя — справа далёкай перспектывы», — гаворыць С.Карпінскі, начальнік гарадскога ўпраўлення камунальнай маёмасці і прыватызацыі. Чаму? Таму што прэзідэнт краіны раіць прадаваць толькі тыя крамы, якія працуюць стратна. Прыбытковыя ж няхай застаюцца пад крылом дзяржавы надалей. Пры ўсім пры гэтым урад летась падпісаў мемарандум з Сусветным банкам, абавязаўшыся ў 1999 годзе прыватызаваць усе аб'екты гандлю і сэрвісу. Атрымліваецца, што ўлада адной рукой падпісвае адзін дакумент, а другой — зусім супрацьлеглы.



*Гродна: крама на калёсах.*

У канкурэнцыі з прыватнымі некаторыя дзяржаўныя прадуктовыя крамы ў Гродне сапраўды сталі працаваць лепш і нават за мінулы год далі супольны прыбытак у 20 мільярдаў рублёў. За той жа час гарадскі бюджэт атрымаў 13,5 мільярда рублёў ад прыватызацыі камунальных аб'ектаў. З дзяржаўнымі крамамі, аднак, уладам працаваць больш звыкла (калі што — можна аштрафаваць), а з прыватнымі цяжэй. Можа таму асноўная ўвага ў сэнсе кантролю накіраваная менавіта на прыватных. Начальнік гарадскога ўпраўлення гандлю і грамадскага харчавання Уладзімір Стома сцвярджае, што большасць парушэнняў выяўлена менавіта ў прыватызаваных крамах. Па яго словах, аблічваць пакупнікоў цяпер найбольш менавіта там, а не ў дзяржаўным гандлі. Але самае ўлюбёнае парушэнне, якое кантралёрам найлягчэй выявіць, гэта — няпоўны асартымент тавараў на прылаўках. Адну прыватызаваную краму з-за гэтага ажно 20 разоў правяралі! А да аднаго з самых салідных гандлёвых дамоў горада — «Баторыя» прычапіліся з-за таго, што ў прадуктовым аддзеле скончыліся соль і цукар. Уладзімір Стома зазначае, што дзяржаўнай краме такое «парушэнне» ніколі не даравалі б, але адносна прыватнікаў улады таксама маюць адзін вельмі дзейсны «рычаг» — пазбаўленне ліцэнзіі на продаж спіртнога. Калі яе адабралі, можна зачыняць краму, бо на хлебе і солі не заробіш. Летась, праўда, ліцэнзію адбіралі толькі пару разоў, а ў 11 выпадках у якасці пакарання часова прыпынялі яе дзеянне.

Але некаторыя прыватызаваныя крамы гінуць самі, нават без пракурорскага ўдзелу і арміі кантралёраў. Адна вядомая ў горадзе фірма, якая валодае двухпавярховым гандлёвым домам, мела да нядаўняга часу яшчэ адну краму і рэстаран, але не здолела іх утрымаць. Улады самі прызнаюць, што на аўкцыёнах усё менш і менш пакупнікоў і што, набыўшы краму, некаторыя з іх ужо не маюць сродкаў, каб яе адрамантаваць. У такіх выпадках улады прымушаюць перапрадаць аб'ект, але здараецца, што ў новага ўласніка таксама не хапае грошай, каб адчыніць краму. Такім чынам, тармазіць прыватызацыю дапамагае тое, што ў беларусаў няма вялікіх сродкаў альбо яны баяцца імі рызыкаваць. А што датычыць замежнікаў, дык, па словах гарадскога начальства, імі на сённяшні дзень не куплена ў Гродне ніводнага аб'екта.

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

НАВІНЫ
20 сакавіка 1998 г., № 28

# Президент дает показания

**Вячеслав ОРГИШ,**
***доктор философских наук***



Официальная белорусская пропаганда с пеной у рта убеждает общество в том, что дела в экономике, социальной сфере пошли на поправку. В пропагандистском стремлении выдать желаемое за действительное более всех усердствует белорусский президент. Почти в каждом своем выступлении он упорно внушает простодушной публике мысль о том, что темпы роста производства, реальной заработной платы, пенсий и стипендий имеют устойчивую положительную динамику, что благодаря усилиям властей удалось обеспечить «некоторое улучшение жизни наших граждан».

### Жизнь стала налаживаться... как в анекдоте

Когда слышишь фантазии Лукашенко по поводу «некоторого улучшения» народного благосостояния, на ум невольно приходит грустный анекдот. Жизнь так допекла одного горемыку, что тот, вконец измученный нищетой и лишениями, решил свести с ней счеты. Взял веревку и отправился в туалет, чтобы там осуществить задуманное. Закрепляя под потолком виселицу, он увидел на сливном бачке припрятанный кем-то окурок. Обрадовался неожиданному подарку, решил перед смертью разок-другой затянуться. Спустился вниз, присел на краешек унитаза, прикурил и начал озираться по сторонам. За мусорным ведром увидел недопитую бутылку водки. Допил. Когда внутри потеплело, приободрившийся самоубийца удовлетворенно воскликнул: «Блин, кажется, жизнь стала налаживаться!».

Доведенным до нужды миллионам белорусов любая кроха с барского стола сегодня может показаться спасительным благодеянием. Многие, слушая щедрые на обещания речи президента, внемля его победным реляциям, готовы, подобно персонажу анекдота, поверить, будто жизнь и впрямь стала налаживаться. Тем не менее, падение жизненного уровня более чем 90% белорусского населения остается несомненным и доминирующим социальным фактом белорусской действительности. Поэтому сообщение Лукашенко о том, что реальная заработная плата за 1997 год увеличилась на 14,5, а размер средней месячной пенсии — на 9 процентов — не более чем глоток пьянящей жидкости для тех, кто отчаялся поправить свое материальное положение. Окончательный диагноз, который президент старательно обходит стороной, свидетельствует о дальнейшем социальном крахе большинства белорусского населения.

Дело в том, что в том же 1997 году цены на потребительские товары и услуги подскочили на 63,8 процента, то есть их рост превысил рост зарплаты и пенсий более чем в четыре раза. Социологические исследования конца прошлого года показывают, что 80 процентов белорусов не удовлетворены размером своей зарплаты (положительный ответ дали только 8 процентов респондентов). Что касается материальной обеспеченности в целом, то ее уровнем не удовлетворены 73 процента граждан, тогда как положительно ответили лишь 14 процентов опрошенных.

Лукашенко любит произносить пространные, утомительные монологи, переваривать которые — сущее наказание. Но достаточно вдуматься хотя бы в некоторые из них, вникнуть в официальную статистику, которой они насыщены, чтобы понять: Беларусь не спасут громкие заверения государственной власти о том, что кризис остановлен и дела пошли в гору. Общество нуждается в решительной модернизации, исходными направлениями которой должны стать десоветизация всех сфер жизни, приватизация и реструктуризация национальной экономики. Невольные **публичные показания**, которые дает белорусский президент, по сути разоблачают словесную фальшь государственной пропаганды относительно наиболее острых проблем развития страны, демонстрируют бесперспективность навязываемого им курса. Приводимые здесь статистические показатели работы белорусской экономики, ее оценки президентом Лукашенко заимствованы из его последних речей (см.: «Советская Белоруссия» от 11 октября 1997 года и 28 января 1998 года).

### Советский синдром

Наименее решенная проблема белорусского общества — это проблема преодоления советского синдрома страха перед капитализмом, изживание социалистической уравнительно-распределительной морали. Парадоксально, но факт: больше половины белорусов признают необходимость проведения рыночных реформ. Вместе с тем, на вопрос социологов «Какой строй более предпочтителен для Беларуси?» только 17 процентов граждан назвали капитализм, тогда как в пользу социализма высказались 52 процента опрошенных. Совершенно очевидно, что во многих случаях **людей побуждает выступать против новых общественных отношений не социальный дискомфорт, а идеологическая зашоренность**, засевшая в голове социалистическая идея.

Без разрыва с советским наследием политический класс Беларуси не сможет четко определить стратегию движения в будущее, его поведение будет всегда строиться по известной формуле: шаг вперед, два шага назад. Без глубокого размежевания с советскими традициями административно-хозяйственного поведения, политическое руководство страны, каким бы расчетливым оно не представлялось, вряд ли сумеет правильно определить актуальные направления экономической и социальной политики, государственного строительства, приблизить белорусское общество к наиболее рациональным моделям развития. Разрыв с советскими корнями — это кардинальная перестройка политической организации общества, отказ от концепции жесткой управленческой вертикали, усвоение политическим истэблишментом принципов плюралистического устройства политической жизни.

Иными словами, будущее Беларуси зависит от того, сумеет ли она пройти путь самоочищения, то есть радикальной десоветизации, и вернуться к западным политическим, экономическим, гражданским традициям, от которых ее насильственно оторвала Российская империя в конце 18 века. Трансформация белорусского общества в духе западных индивидуалистических ценностей откроет различным социальным группам более привлекательные и более взвешенные пути решения накопившихся дилемм. Пока же многие белорусы выстраивают свою гражданскую и моральную позицию почти в полном соответствии с советской обывательской философией. На вопрос социологов «Что бы Вы выбрали: гарантированные, стабильные, пусть и невысокие доходы, или высокие доходы, пусть и без гарантий на будущее?» 42 процента опрошенных предпочли первый вариант и только 27 процентов — второй. Советская привычка во всем полагаться на авторитарную власть побуждает 29 процентов белорусов связывать надежды на улучшение условий своей жизни с «сильной личностью, способной навести порядок в обществе», а 39 процентов — с авторитарной деятельностью президента Лукашенко.

Именно решительная десоветизация ускорит становление новой гражданской и правовой сознательности, подтолкнет процесс формирования национальной элиты, ориентированной не на идеологические обоснования, а на поиски национальной выгоды. Очищение от советского прошлого и возвращение к западным установкам изменит образ мыслей и предпочтения огромной армии профессиональных чиновников, стимулирует прагматическую эволюцию правящих кругов, сделает власть более открытой, демократичной и честной.

Что же подвигнет белорусское общество, его политически активные слои к идеологическим переменам, развернет сознание белорусов, их экономику, культуру лицом к Западу?

### Побеждает сильнейший

Еще на заре советской власти столп большевизма Ульянов-Ленин вполне резонно заметил, что в споре между капитализмом и социализмом, в последнем счете, победит тот строй, та власть, которые смогут создать более высокую производительность труда. С тех пор прошло много десятилетий. Социализм вчистую проиграл соревнование с капитализмом, показав всему миру слабость экономической системы, управляемой при помощи директивного метода.

Народы, соблазнившиеся социалистической утопией, нынче спешат наверстать упущенное. Отрицательный опыт советской эпохи не оставляет шансов тем, кто еще пытается вращать колесо истории вспять. Повсеместное утверждение более производительного экономического уклада неизбежно. Несмотря на медлительность и попятные движения, Беларуси также придется в полном объеме осваивать конкурентный рыночный порядок.

Не вызывает сомнений то, что с каждым месяцем нереформированная белорусская промышленность, сельское хозяйство будут стагнировать все заметнее, а экономика стран, осуществивших реформы, уходить вперед. В такой ситуации притязания белорусской хозяйственно-промышленной элиты, политического класса, социальные запросы всего населения обязательно натолкнутся на проблему отсутствия здорового экономического роста. Жизнь с неизбежностью поставит перед властью вопрос о необходимости прагматической эволюции. Лукашенко уже вынужден, вопреки собственной риторике, признаваться: *«Мы почти исчерпали доводы, согласно которым серьезные издержки объяснились происками или нерадивостью исполнителей... Нам надо активнее искать причины в механизме реализации законов общественного развития»*.

Противоречие между возрастающими потребностями и возможностью их удовлетворения особенно усиливается на фоне успешного экономического развития народов Центральной и Западной Европы, экономического оздоровления в странах Балтии и России. Вопрос отставания в уровне жизни от соседей становится предметом критического внимания белорусских граждан. Сравнивая ситуацию в Беларуси и прибалтийских государствах, 56 процентов белорусов находят, что прибалты живут лучше. Сопоставляя жизненный уровень Беларуси и России, 35 процентов белорусов считают, что жизнь россиян в материальном отношении выгодно отличается от их собственной. Оценивая уровень социальной защиты белорусского населения, 63 процента опрошенных признают его неудовлетворительным.




### Сельские сумерки

Сопротивление белорусской власти последовательным и радикальным реформам только откладывает, но не отменяет их. Хотя Лукашенко уверяет, что *«в экономике нашего государства имеет место устойчивая тенденция роста»*, поверить этому трудно. То, что доходы населения в прошлом году выросли на 5 процентов, а уровень инфляции удалось снизить до 5 процентов в месяц — только часть правды, доносящейся из президентских уст. Вторая ее часть состоит в том, что цены на потребляемые товары и услуги росли с заметным опережением. Поэтому официальный размер инфляции — это показатель ее формальных темпов. Он говорит лишь о том, что при помощи командно-административных мер инфляцию загнали «в подполье», но не обуздали. Мартовский обвал курса белорусского рубля — наглядное тому подтверждение.

Мотивация и стимулы командной белорусской экономики не действуют ни в одном ее секторе. Несмотря на административные и протекционистские усилия власти, объем валовой продукции сельского хозяйства в прошлом году уменьшился на 5,5 процента. Производительность в колхозах и совхозах в полтора-два раза ниже, чем в индивидуальных подсобных хозяйствах. По свидетельству самого Лукашенко: *«Общественный сектор аграрного комплекса произвел в прошлом году только 56,8 процента продукции к уровню1990-го. В хозяйствах же населения валовая продукция превысила этот уровень на 16 процентов, а продукция растениеводства выросла на 39,3 процента»*. Благодаря индивидуальному сектору общие показатели производства сельхозпродукции не опускаются ниже уровня, за которым начинается голод. Труженики села находятся в самом бедственном положении. Среднемесячная зарплата в сельском хозяйстве в полтора раза ниже, чем в целом по народному хозяйству.

Белорусское сельское хозяйство, если сохранятся его нынешние структурные и организационные особенности, ожидает полный упадок и еще большее отставание по соответствующим показателям от таких стран, как Польша, Венгрия, Чехия, Словакия, Литва, Латвия, Эстония. Пришло время вплотную заняться преобразованием коллективных хозяйств — этих монопольных собственников сельскохозяйственных средств производства. Сельский труженик должен иметь право по своему усмотрению распоряжаться не только результатами своего труда, но и землей. Последние социологические опросы показывают, что идею частной собственности крестьян на землю поддерживают 62 процента населения. Существование же фермерских хозяйств одобряют 66 процентов опрошенных.

Переход от колхозно-совхозного строя к передовым формам хозяйствования, использующим индивидуалистическую психологию предпринимательства и мировой опыт фермерства — одна из самых насущных и одновременно болезненных в идеологическом отношении задач, которые жизнь ставит перед Лукашенко и от решения которых он пытается уклониться.

### Промышленный тупик

Месяц назад Лукашенко рапортовал о том, что в прошлом году объем валового внутреннего продукта (ВВП) увеличился по сравнению с 1996 годом на 10 процентов. Возможно, это так. Но в мире принято считать объем ВВП не от того, что сделано и захоронено на складах, а от того, что реализовано. Если придерживаться такой методики, то показатели по ВВП будут далеко не радостными. По сведениям самого же Лукашенко на начало года ведущие предприятия белорусской промышленности (БелАЗ, МТЗ, Гомсельмаш, МАЗ, борисовский Автогидроусилитель) скопили запасы готовой продукции на 3,652 триллиона рублей. В целом удельный вес запасов готовой промышленной продукции составляет почти половину в месячном объеме.

Подтверждением правильности скептической оценки «роста» ВВП служит непрерывное увеличение внешнеторговой задолженности, которая достигла отметки 1,2 миллиарда долларов США. Страна по-прежнему покупает больше, чем продает, а значит, и проедает больше, чем зарабатывает.

Большое число белорусских заводов и фабрик сегодня убыточны. Их техническая и технологическая оснащенность находится на уровне 70-х годов. Износ основных производственных фондов в народном хозяйстве достиг 46 процентов, в том числе в промышленности — 58 процентов. Поэтому, а также из-за отсталости энерго- и ресурсосберегающих технологий, производимые ими изделия по себестоимости, качеству и функциональным параметрам заметно уступают соответствующим мировым образцам и, естественно, не находят сбыта. Хваленый промышленный рост достигается *«главным образом за счет экстенсивных факторов и при почти повсеместном удорожании стоимости выпускаемой продукции»*. Однако *«в экономике страны уже практически исчерпаны возможности экономического развития за счет экстенсивных факторов»*. В этом президенту можно верить безоговорочно. Тупик очевиден. Даже не склонный к саморазоблачениям Лукашенко вынужден констатировать это.

 



# «Штандар наш бел-чырвона-белы...»

На старонках камсамольска-пенсіянерскіх газетаў з настойлівасцю, вартай лепшага ўжытку, публікуюцца «выкрывальніцкія» матэрыялы, у якіх аўтары не прамінаюць выпадку, каб яшчэ раз кінуць камень у ненавісную ім нацыянальную сімволіку. Дэмакратычны друк гэтак жа старанна не заўважае гэтага брэху — маўляў, і так усім усё зразумела. І дарма. Бо ў нейтральнага і недасведчанага чытача паступова ўзнікаюць сумненні: хто яго ведае, можа і сапраўды там нешта ёсць? Апалагеты ж радасна паціраюць рукі — ага, маўчаць! Таму напярэдадні 80-годдзя абвяшчэння БНР, калі людзі зноў стануць пад свае спрадвечныя сімвалы, ёсць сэнс сказаць колькі словаў па гэтай тэме.



У якасці завочнага апанента возьмем артыкул доктара гістарычных навук Міколы Кузняцова, апублікаваны ў газеце «Чырвоная змена».

Закід першы: *«Беларусь, як дзяржава, суверэнная, незалежная частка сусветнай супольнасці з'явілася 1 студзеня 1919 года»*. Астатняе, у тым ліку БНР, *«усяго толькі гістарычныя эпізоды на шляху да ўсталявання сапраўднай беларускай дзяржаўнасці з яе сцягам і гербам — БССР»*.

Наколькі БССР была *«суверэнная і незалежная частка сусветнай супольнасці»*, мы ўсе цудоўна ведаем. БНР жа М.Кузняцоў незалежнай не прызнае на той падставе, што *«Беларусь была акупаваная германскімі войскамі... Камандаванне 10-й германскай арміі, што валадарыла на беларускіх землях, не лічылася з так званым урадам, выгнала яго з дома губернатара на плошчы Свабоды, які той заняў у адсутнасць немцаў, скінула і ўзняты над ім сцяг»*.

Такім чынам, сам аўтар супярэчыць сабе, прызнаючы, што БНР была абвешчаная ў не занятым немцамі Мінску, што сёння цвёрда даказана. У той жа час і бальшавіцкія структуры тады ўцяклі з горада на ўсход. А гэта азначае, што згодна нормаў міжнароднага права нямецкія войскі, гэтаксама як і войскі бальшавіцкай Расіі, адносна Беларусі ў роўнай ступені з'яўляліся тады акупантамі.

Супярэчыць сабе М.Кузняцоў таксама, сцвярджаючы, што *«з тых часоў не захавалася ніякіх дакументаў аб распрацоўцы і зацвярджэнні сцяга і герба самазванай рэспублікі»*. Ніжэй ён жа піша: *«Прыняты ж Сакратарыятам БНР і змешчаны на старонках газеты «Вольная Беларусь» 11 жніўня 1918 года бел-чырвона-белы сцяг, зняслаўлены германскімі войскамі, застаўся сцягам эміграцыі...»*

Па-першае: з такімі ж падставамі шаноўны аўтар можа назваць самазванай рэспублікай і нікім тады не прызнаную Савецкую Расію з яе СНК на чале з Леніным. Па-другое: 5 жніўня 1918 года Сакратарыят БНР афіцыйна зацвердзіў бел-чырвона-белы сцяг у якасці беларускай сімволікі. І па-трэцяе: незразумела, чым жа гэтак зняславілі бел-чырвона-белы сцяг германскія войскі? Калі толькі тым, што нібыта скінулі яго з дома губернатара, дык, добра пакорпаўшыся ў гісторыі, можна прывесці аналагічныя выпадкі і з чырвоным сцягам бальшавікоў, аднак ці азначае гэта, што ён зняслаўлены?

Закід другі: у час апошняй вайны памагатыя фашыстаў карысталіся нацыянальнай беларускай сімволікай. *«Бел-чырвона-белыя сцягі выкарыстоўвалі для надання пампезнасці ў праводзімых сходах і шэсцях, гэткія ж павязкі насілі члены Саюза беларускай моладзі, герб «Пагоня» быў уманціраваны ў кукарду паліцэйскіх,* — піша М.Кузняцоў. — *Былыя партызаны і падпольшчыкі добра ўсё гэта памятаюць. І таму аніяк не могуць пагадзіцца з тым, каб спаганеныя сімвалы і сёння нагадвалі пра здзекі і пакуты, што чынілі на Беларусі фашысты і іх памагатыя. І калі сёння партыя Беларускага народнага фронту зацвердзіла ў мінюсце Рэспублікі Беларусь у якасці сваёй партыйнай сімволікі бел-чырвона-белы сцяг, то тым самым яна ўзяла на сябе і ўвесь цяжар маральнай адказнасці за ўсё тое, што з ёю звязана»*.

Што ж, абвінавачванне сур'ёзнае. Аднак спачатку звернем увагу на дзіўныя правалы памяці нашых партызанаў і падпольшчыкаў: нешта да канца васьмідзесятых іхняя памяць маўчала. Нідзе ніводнага разу не даводзілася чытаць (ні ў апублікаваных дакументах ваеннага часу, ні ў апублікаваных мемуарах партызанаў — а недахопу ў такога роду літаратуры не было), што нейкія там паліцаі-калабаранты насілі «Пагоню» і бел-чырвона-белыя сцягі. А тут раптам успомнілі, прычым гэтак дружна, што проста дзіва!

Але пакінем з'едлівы тон. Дапусцім, калабаранты карысталіся беларускай нацыянальнай сімволікай. Што з гэтага вынікае? А роўна нічога. Ёсць сусветная практыка стаўлення да сімволікі ў падобных выпадках. І калі трымацца логікі нашых чырвоных ветэранаў, дык ад сваёй сімволікі павінны былі адмовіцца французы, бо пад ёю ваяваў сатэліт Гітлера маршал Петэн. Павінны былі б адмовіцца і іспанцы, і італьянцы, бо ёю карысталіся саюзнікі Гітлера Франка і Мусаліні. Ды і румыны таксама павінны былі б змяніць свой сцяг, бо Румынія нейкі час была хаўрусніцай гітлераўскай Германіі. Аднак не змянілі, не адмовіліся. У сувязі з гэтым узгадваецца нядаўняя палеміка ў расійскай Думе, калі левыя паставілі пытанне аб вяртанні сімволікі СССР на той падставе, што трыкалорам у вайну карысталася армія генерала Уласава. Тады ў парламенцкай зале і прагучала меркаванне: на нацыянальную сімволіку не распаўсюджваюцца тыя злачынствы, якія пад ёю здзяйсняліся.

На гэтай думцы і спынімся. Не распаўсюджваюцца. Нацыянальныя сімвалы па-за палітыкай. Яны даюцца кожнаму народу матухнай-гісторыяй раз і назаўсёды. Нацыянальныя сімвалы ў нас адны. Іншых не будзе. Нацыянальныя сімвалы, як сказаў некалі Міхась Ткачоў, паміраюць толькі разам з народам. Вось што трэба раз і назаўжды ўсвядоміць некаторым нашым гісторыкам.

Не ўхіляецца Мікола Кузняцоў і ад малапрыемнай для яго тэмы: цяперашняя дзяржаўная сімволіка нясе адказнасць за ўвесь гвалт, што пад ёю тварыўся за савецкім часам, у прыватнасці, за рэпрэсіі 30—40-х гадоў. На гэты конт ён піша: *«Апраўдваць забойствы не бяруся, але ў той жа час ставіць іх на адзін узровень з фашысцкім генацыдам ніяк нельга. Фашызм імкнуўся знішчыць цэлыя народы, у тым ліку славянства, беларусаў ператварыць у сваіх рабоў. Моладзі гэта сёння трэба асабліва ўсведамляць...»*

Што ж, ставіць на адзін узровень магчыма і не трэба. Але цікава, што цяпер выразна намецілася тэндэнцыя кіраўніцтва Беларусі стаць правапераемнікамі ўсяго таго, што атаясамліваў і ўвасабляў сабой былы СССР. У такім разе і цяперашняя сімволіка РБ нясе на сабе ўвесь цяжар маральнай адказнасці за ўсё тое, што з ёю звязанае. Бо яна ўсё тая ж, бальшавіцкая. Яна была свядома абраная, узяць іншую ці стварыць прынцыпова новую не захацелі. І паколькі гэтая сімволіка не нацыянальная, а выключна палітычная (у чым яе карэннае адрозненне ад нацыянальнай), то яна і нясе на сабе адказнасць за ўсе жахі сталінскіх рэпрэсіяў, калектывізацыі, вынішчэння нацыянальнай эліты, нацыянальнай мовы і свядомасці народа. І колькі б сёння хто ні заяўляў, што рэпрэсіі на Беларусі не насілі масавага характару, моладзі сёння асабліва трэба ўсведамляць, што гэта быў бальшавіцкі генацыд і што на гэтай сімволіцы кроў ахвяраў Курапатаў і ГУЛАГа. І хіба ў гэтай сістэмы таксама не было імкнення знішчаць цэлыя народы? Проста адны народы знішчаліся фізічна, а астатнія — духоўна, ператвараліся ў новую сацыяльную «общность» савецкі народ, з адной агульнай мовай і адной агульнай культурай. І хіба мы на дзве трэці ўжо не сталі гэтым самым савецкім народам? Адказнасць за гэта таксама ляжыць на цяперашняй савецкай сімволіцы.

Завяршае Кузняцоў свой артыкул на высокіх танах: *«Народнае патрабаванне, нарэшце, было пачута палітычнымі сіламі Беларусі, што паставілі пытанне аб гербе і сцягу на рэспубліканскі рэферэндум. За новы, невяўнічы герб і адпавядаючы ментальнасці, надзеям, марам і жыццёвым памкненням народа сцяг выказаліся 75,1% удзельнікаў народнага веча»*.

Пра «навасць» і «невяўнічасць» новых-старых сімвалаў ужо гаварылі, а вось ці варта патрабаванні прыкормленай уладамі вярхушкі ветэранскай арганізацыі выдаваць за народныя — пытанне рытарычнае. Што да згаданага рэферэндуму, то гэтая дата назаўжды застанецца чорнай у гісторыі Беларусі, калі агаломшаныя «Дзецьмі хлусні» людзі галасавалі супраць сваіх спрадвечных сімвалаў, супраць сваёй спрадвечнай мовы. Калі б можна было адкруціць час назад, то можна было б паставіць цікавы эксперымент: калі б у перадвыбарны дзень двойчы на БТ паказаць фільм Хашчавацкага «Обыкновенный президент», а затым адправіць людзей выбіраць прэзідэнта Беларусі, то цікава было б пабачыць — колькі выбаршчыкаў прагаласавала б за яго?

На заканчэнне скажу: калі вы ўбачыце на вуліцах людзей пад бел-чырвона-белым сцягам і гербам Пагоня, дык не сумнявайцеся — гэта вашы сімвалы, спрадвечныя, беларускія сімвалы. Іншых у нас няма і не будзе. І прыйдзе той дзень, калі яны зноў стануць дзяржаўнымі на Беларусі.

**Юрка КОПЦІК**

ДАГЕРРОТИП

# Неюбилейное

**Семен БУКЧИН**

Где-то в начале семидесятых мой приятель, московский историк, будучи у меня в гостях, спросил, был ли я в музее первого съезда РСДРП. Я скорчил недовольную гримасу, означавшую, мол, чего я забыл в таком музее. На следующий день Юра, весьма оживленный и довольный, рассказывал мне о своем визите в известный «домик на берегу Свислочи».

Оказалось, у него состоялась дискуссия с сотрудниками музея по поводу количества участников съезда. По экспозиции получалось, что делегатов было семеро. Мой же приятель, человек весьма знающий, настаивал, что их было девять. Отсутствовали имена и, соответственно, портреты двух делегатов от «Бунда» — А.Мутника и Ш.Каца.

— Одного бундовца, Кремера, они все-таки оставили! — возмущался Юра. — Видимо, ради приличия. Но повесить портреты всех трех — это, наверное, выше их сил.

Работники музея уверяли моего друга, что экспозиция утверждена на «самом верху», что ее экспертами были историки-академики. Наконец, одна из женщин обреченно произнесла: «Их фотографии не сохранились... А вообще-то мы знаем, что делегатов было больше».

Да, с евреями на первом съезде РСДРП получился перебор. Трое от Бунда. А это ужасная с точки зрения советской идеологии организация — «оппортунистическая, мелкобуржуазная, националистическая». Короче — сионистская. Два делегата — Б.Эйдельман и Н.Вигдорчик — от киевской «Рабочей газеты», хотя она и считалась более «чистой» в социал-демократическом смысле, тоже подкачали по части национальности. В общем, получалось, что из девяти делегатов пятеро евреи. Конечно, ЦК КПБ (несомненно, по согласованию с Москвой) не мог допустить преобладания «сионистского элемента» в таком святом месте, у истоков КПСС. Выход был найден традиционный. Применили по сути ту же процентную норму, которая существовала по отношению к евреям в царской России. Взяли да и урезали задним числом участие евреев в этом суперважнейшем идеологическом мероприятии — основании КПСС. Поскольку историю тоже нужно, когда требуется, выравнивать. Иначе она может не туда занести... Не тех людей восславить...

Признаюсь, я так и не побывал в «домике на берегу Свислочи». Впрочем, не сомневаюсь, что либеральные ветры конца 80-х — начала 90-х годов отразились на экспозиции и историческая правда восстановлена. Тем более, что фотографии всех девяти делегатов съезда сохранились. Но вот глядя по телевизору на манифестации и речи у «домика» здешних и заезжих коммунистических «вождей», по случаю столетия первого партсъезда, а чуть ранее, кажется, в программе Сергея Доренко (или это было по НТВ? ), слушая краснодарского губернатора Кондратенко о жидомасонском засилье в России и в унисон ему поддержанные белорусским правителем (во время его пребывания на Кубани) сожаления об отсутствии «русских лиц» на российском телевидении, я подумал, что экспозицию все-таки придется менять.

И более решительно, чем ранее. Сионистский дух должен быть вычищен на корню из нашей истории. Если на Белорусском телевидении нет «нехороших лиц», то почему они должны отсвечивать возле наших идейных святынь? Полагаю, что эта недоработка со стороны министерства культуры должна быть в ближайшее время устранена. Если в министерстве, конечно, понимают действительный ход истории...

А вот в Польше в эти же дни демонстрируется полное непонимание этого самого хода. Поляки отмечают 30-летие мартовских выступлений студентов, ставших началом широкого оппозиционного движения. Тогда, весной 1968 г., польские власти во главе с Гомулкой объявили студенческие «замешки» (волнения) «еврейской провокацией». Началась антисемитская кампания, итогом которой стала поощряемая властями массовая эмиграция евреев из страны. Они выезжали с паспортами, в которых стоял штамп «Без права возвращения». Сегодня Польша просит прощения у своих бывших сограждан. На Гданьском вокзале в Варшаве открыта доска в память о тех, кто, как гласит надпись, «после марта 1968 г. выехал из Польши с документами для поездки только в одну сторону». Президент Квасьневский объявил о возвращении польского гражданства тем людям, которые вынуждены были покинуть страну в те мрачные времена.

Придет ли время, когда президент Беларуси вернет белорусское гражданство Александру Ступникову? Тяжелый вопрос. В любом случае, это будет другой президент... Но для этого и страна должна стать другой...



 

*Литва—Польша—Беларусь*

# Пробки на границах

**С начала марта и по сей день ситуация на пропускных пунктах как литовско-польской, так и литовско-белорусской границы остается напряженной.**

Администрация Таможенного департамента Литвы встретилась во вторник со своими белорусскими коллегами, чтобы вместе решить, как избавиться от километровых пограничных заторов.

Неделю назад, когда ситуация на границе грозила выйти из-под контроля, президент Литвы Валдас Адамкус вызвал шефов Пограничной полиции и Таможенного департамента и поручил им до конца марта представить конкретные предложения. 2-3 апреля В.Адамкус планирует посетить Польшу, и пограничные вопросы включены в план визита не последним пунктом.

Комментируя ситуацию с поляками, руководитель пресс-службы Таможенного департамента Э.Варнене как одну из причин назвала неритмичность их работы. Бывали случаи, когда в течение 3-4 часов польская сторона не пропускала ни одного автомобиля, из-за чего сразу создавались пробки. Особенно в дни, когда в Литве устраиваются автомобильные базары.

Если полякам ставится в вину нерадивость, то белорусам, напротив, — излишняя скрупулезность. Здесь заторы происходят из-за низкой пропускной способности. На Медининкяйском посту литовская сторона может пропускать в сутки до 800 транспортных средств, в то время как белорусская — только 200. У тех своя инструкция — на автомобиль от 30 до 50 минут. Белорусы оказались не готовы к тому, чтобы «переварить» втрое увеличившийся за последний год поток грузов. Настоящие пикеты протеста изнывающих на границах водителей вызывают проходящие вне очереди скоропортящиеся и опасные грузы.

На встрече таможенников говорилось не только о совершенствовании методов работы на уже действующих постах, но и о введении дополнительных. Так, белорусская сторона предложила использовать исключительно для легковушек старую дорогу Вильнюс — Минск и в течение нескольких месяцев оборудовать дополнительный контрольно-пропускной пункт. До 1 мая стороны обязуются, «совершенствуя организацию работы», увеличить пропускную способность через международные автодорожные пункты с 360 до 530 грузовых автомашин в сутки.

**Жанна СКРИПОВА**

*Индийские власти предупредили, что готовы оснастить свою страну ядерным оружием*

# Индии нужна бомба

Новый премьер-министр Ваджпайи заявил, что для сохранения территориальной целостности, безопасности и единства Индии будут приняты все необходимые меры. В частности, будет создан собственный ядерный потенциал, правда, конкретные сроки его развертывания не называются. В таком случае, Индия должна готовиться к ответным мерам. К примеру, законодательство США предполагает автоматическое введение санкций против стран, которые проводят ядерные испытания или оснащаются ядерным оружием. А министр иностранных дел Пакистана предупредил, что решение Индии подхлестнет гонку вооружений и может дестабилизировать целый регион. Индия не присоединилась к договору о нераспространении ядерного оружия и к мораторию на ядерные испытания, считая их дискриминационными. В 1974 году страна провела ядерное испытание и имеет на вооружении ракету дальнего радиуса действия, способную нести ядерную боеголовку.

*Франс-Пресс*

## В Эстонии отменили смертную казнь

**В среду парламент Эстонии ратифицировал 6-ю поправку в Европейской конвенции прав человека, предусматривающую отмену смертной казни.**

Решение эстонских парламентариев стало неожиданностью не только для наблюдателей, но и для самих депутатов, поскольку проведенный накануне голосования опрос показал, что почти половина членов парламента не имеет четкой позиции по вопросу об отмене смертной казни. Тем не менее радикальный закон был принят, хотя и с небольшим перевесом.

Правительство предложило парламенту ратифицировать 6-ю поправку в связи с вполне определенной датой: через две недели в Брюсселе Эстония официально начнет переговоры о вступлении в Европейский союз. Отмена смертной казни, без сомнения, станет большим козырем в руках эстонских дипломатов. Помимо чисто политических плюсов, решение эстонского парламента является гуманным шагом по отношению к двум десяткам приговоренных к смертной казни, некоторые из них ожидают своей участи уже несколько лет. До последнего времени эстонские суды продолжали выносить смертные приговоры, которые не приводились в исполнение.

Радостная для местных смертников и европейских политиков новость вряд ли обрадует эстонских юристов. Дело в том, что до сих пор максимальный срок заключения в Эстонии ограничивается 15 годами, в то время как в большинстве стран смертную казнь заменяют на пожизненное заключение. Кроме того, эстонские тюрьмы не приспособлены для долгих сроков заключения.

**Александр СУЙТС**

## Чубайс надеется, что белорусские власти не будут искать врагов

**Первый вице-премьер РФ Анатолий Чубайс надеется, что белорусские власти будут «искать содержательные, профессиональные решения» по стабилизации ситуации с национальной валютой, «а не искать врагов».**



Комментируя в беседе с журналистами в среду в Москве заявление президента Беларуси Александра Лукашенко, обвинившего А.Чубайса в том, что тот инспирировал произошедший в прошлую пятницу обвал белорусского рубля, первый вице-премьер сказал: *«Очень хорошо, когда есть имя, с которым можно связать свои проблемы. Ситуация сразу становится легкой, удобной и приятной»*. К сожалению, отметил А.Чубайс, *«реальные проблемы, которые стоят сегодня в Беларуси, таким простым способом не решаются»*. *«Они не решаются через поиски спекулянтов, обвинения того или иного чиновника»*, — подчеркнул первый вице-премьер, указав при этом, что *«речь идет о серьезных ошибках»*, совершенных белорусскими властями в экономическом курсе. *«Мы это знаем, к сожалению, на своем опыте*, — сказал Чубайс. *— Сами совершали ошибки, и нам совсем не хотелось бы, чтобы Беларусь, братская страна для России, наступала на те же грабли»*. Он выразил надежду, что белорусским властям, *«в том числе Александру Григорьевичу, хватит здравого смысла»* на то, чтобы найти профессиональные решения по выходу из сложившейся ситуации.

*Интерфакс*

# С Пиночетом хотят разобраться

**Отставной генерал и сенатор Аугусто Пиночет искренне удивлен и оскорблен попытками своих коллег-парламентариев объявить ему импичмент.**



Бывший диктатор уже неделю занимает созданный им для себя же пост пожизненного сенатора. Восхождение на почетный пост сопровождалось торжественными церемониями, военным парадом и массовыми демонстрациями протеста как в Сенате, так и за его стенами. Формально, 82-летнему Пиночету грозит импичмент за *«нанесение серьезного ущерба чести и безопасности страны»*. Есть гарантии, что обвинение поддержит нижняя палата чилийского Конгресса. В Сенате же очень сильно правое большинство, которое поддерживает Пиночета. По закону, постановление Сената окончательно и бесповоротно. Сограждане обвиняют Пиночета в нарушении прав человека и геноциде против собственной нации. Только по официальным данным, за 17 лет правления генерала Аугусто Пиночета власти расправились по политическим причинам с 3-мя тысячами человек.

Недавно по радио прозвучала запись приказа Пиночета о физическом устранении президента Альенде в сентябре 1973-го. Если подлинность записи подтвердится, парламентский иммунитет генерала окажется под вопросом. В то же время его сторонники заявляют, что готовы надеть пуленепробиваемые жилеты и защищать престарелого генерала, если понадобится.

Палач для одних, символ жесткого, но эффективного режима, приведшего страну к процветанию, — для других, генерал давно уже не только реальность, но и политический миф. Латиноамериканский Гитлер и антикоммунистический Сталин в одном лице. *«Пиночет, как темная закрытая дверь в доме,* — сказал недавно чилийский журналист. *— Все знают, что внутри, но никто не хочет открывать ее вновь»*.

### Как это было

Залогом возвышения генерала стала его репутация надежного и аполитичного служаки. Не случайно еще в 1971-м его назначили на ключевой пост начальника столичного гарнизона. Еще дальше пошел генерал Пратс, друг президента Альенде, известный своими центристскими убеждениями: став главнокомандующим армией, он сделал Пиночета своим замом и начальником штаба сухопутных войск. Ни в каких антиправительственных выступлениях наш герой замечен не был. Он выжидал.

А события развивались быстро. Правление Альенде расшатало чилийское общество. Забастовки, перебои в снабжении, бездеятельность и болтовня, американская финансовая блокада, саботаж доминирующей в парламенте оппозиции, недовольство населения. Теряющий почву под ногами президент попытался было опереться на соцлагерь, но СССР и Куба ограничились пожеланиями успехов да направили в Чили пару десятков тракторов и советников. Альенде призвал на выручку армию. Был создан «военный кабинет» во главе с Пратсом — фактически механизм вмешательства армии в политику. Противникам левой коалиции оставалось только «сменить рулевого». В середине 1973-го им это удалось. Под давлением оппозиции генерал Пратс ушел в отставку. Его место занял следующий по старшинству в военной иерархии — Аугусто Пиночет.

С его приходом говорильня закончилась. 11 сентября 1973 года самолеты ВВС нанесли удар по президентскому дворцу «Ла Монеда». До сих пор точно неизвестно, был ли убит президент Альенде или же застрелился. Члены его кабинета узнали о перевороте из радиопередач.

Тысячи сторонников левых были арестованы по спискам и свезены на Национальный стадион, превращенный в концлагерь. В городских трущобных районах — да и не только там, солдаты без разговоров пускали в ход оружие. По разным оценкам, число погибших и пропавших без вести в ходе переворота и репрессий, которые в основном пришлись на 1973 год, колеблется от 2 до 15 тысяч. 100 тысяч эмигрировали по политическим мотивам.

Когда с сопротивлением было покончено, весь мир обошла фотография: сидящий Пиночет, за ним генерал Ли в черных очках, адмирал Мерино, начальник карабинеров Мендоса. Хунта военного командования. Коллективное руководство было непродолжительным: в декабре 1974 года Пиночет уже был провозглашен президентом Чили.

С приходом генерала к власти начинается создание мифов о Пиночете. Впрочем, не о нем одном, и не только в Чили. Опоздав с помощью режиму Альенде (известие о перевороте застало корабли с советским оружием в пути), Советский Союз вложил всю энергию в пропаганду. Генеральный секретарь компартии Луис Корвалан, нашедший убежище в Москве, певец-великомученик Виктор Хара, которому пиночетовцы отрубили кисти рук, убитый фашистами романтик Сальвадор Альенде. Их именами называли пионерские отряды («в каждой школе учили про Чили»), им посвящали стихи советские поэты. Они невольно заслонили собой других участников этой драмы.

### Продолжение легенды

Генерал Пиночет никогда не отличается многословием. Однако на склоне лет захотел выговориться и выпустил две книги мемуаров. Хроника переворота «Решающий день» и двухтомник «Пройденный путь». В них все: служба не за страх, а за совесть и козни левых, мессианская вера в правильность содеянного и заветы потомкам. Главная мысль: вмешательство армии и лично генерала спасло Чили от марксистской диктатуры, его правление обеспечило дальнейшее процветание, и родина ему по гроб обязана. Одна незадача: только 20 процентов чилийцев сегодня склонны разделить его точку зрения. Более 70 процентов считают Пиночета диктатором, сделавшим грязную, хотя, быть может, и неизбежную работу.

**Анатолий СОСНОВСКИЙ,**
*«Итоги»*

# Кнігі для іркуцкіх беларусаў

**Акцыю па культурнай падтрымцы іркуцкіх беларусаў распачалі ў Інстытуце гісторыі Акадэміі навук.**

Супрацоўнікі аддзела нацыянальных і міжнародных зносінаў наладзілі збор кнігаў для іркуцкага таварыства беларускай культуры. Ініцыятыву прымеркавалі да важнай падзеі ў жыцці нашых землякоў — у Іркуцку адкрылася гарадская бібліятэка беларускай літаратуры.

Як паведамілі арганізатары кнігазбору, зараз ужо сабрана больш за 200 вельмі добрых кнігаў. Гэта падручнікі, даведнікі, слоўнікі, выданні мастацкай, гістарычнай, фальклорнай, этнаграфічнай і іншай літаратуры. Асобны стос беларускіх кніжак сабраўся і для маленькіх іркуцкіх беларусаў. Свае кнігі падаравалі і нашыя знакамітыя аўтары, і чытачы з уласных запаснікаў. Унесці сваю долю паабяцалі таксама выдавецтва «Беларуская энцыклапедыя» і гістарычны факультэт Белдзяржуніверсітэта.

Па словах супрацоўнікаў інстытута, у Іркуцку сёння адна з самых моцных беларускіх суполак. Там працуюць беларуская нядзельная школа, маладзёжны клуб, секцыі. Створаны цудоўны дзіцячы ансамбль, выдаецца і свая газета-бюлетэнь. А нядаўна іркуцкія беларусы дамагліся ад мясцовых уладаў згоды на адкрыццё беларускага класа ў адной з гарадскіх школаў. Пры ўсім тым, як сказалі ініцыятары кнігазбору, з беларускай літаратурай там «адчуваецца недахоп». Таму ахвотнікаў папоўніць сваімі кнігамі іркуцкую бібліятэку беларусаў просяць звяртацца ў Інстытут гісторыі АН (тэл. 68-48-74, 68-48-70). Даставіць жа па прызначэнні каштоўны літаратурны груз бярэцца Беларускае таварыства дружбы і культурных сувязяў з замежнымі краінамі.

**Наталля ВАЛАКІДА**

# Ад Варвашэні, 8 – да Бруселя

**25 сакавіка ў брусельскай штаб-кватэры Хартыі-97 адкрыецца выстава беларускіх мастакоў Аляксея Марачкіна і Аляксандра Родзіна, прысвечаная 80-годдзю абвяшчэння незалежнасці БНР.**

Як зазначыў Аляксей Марачкін, сітуацыя ў Беларусі склалася так, што за мяжой лягчэй выставіць творы, чым дома. Мастакі, аб'яднаныя ў суполку «Пагоня», штогод ладзілі ў Мінску выставу да свята 25 Сакавіка. Але сёлета не ўдалося знайсці залу ў сталіцы.

Таму выставу давялося падзяліць на часткі, якія будуць экспанавацца ў розных месцах: у мінскай штаб-кватэры БНФ (вул. Варвашэні, 8), у Чырвоным касцёле, у Гродне, у Бруселі...

**Людміла ЧАПРОЎСКАЯ**

# Ці не стане вечарына Ізі Харыка апошняй у Доме літаратара?

На гэты месяц у сталічным Доме літаратара былі запланаваныя шматлікія творчыя вечарыны, і, бадай, галоўная з іх — 100-ыя ўгодкі яўрэйскага паэта Ізі Харыка. Але ж з 1 сакавіка распараджэннем прэзідэнта Дом літаратара як культурная ўстанова спыніў сваё існаванне і набыў новы статус — «Административный корпус при ГХУ УД администрации президента». Начальнікам корпуса была прызначаная Т.Гурко, былы метадыст Дома літаратара, якая восем гадоў таму, на падставе рашэння прафсаюзнага сходу калектыву, з вялікім скандалам была звольненая з працы. Цяпер Т.Гурко паставіла ўмовы: альбо за кожную вечарыну Саюз пісьменнікаў будзе сплачваць грошы на рахунак адміністрацыі прэзідэнта, альбо праводзіць мерапрыемствы на ганку.

Творчыя вечарыны беларускіх пісьменнікаў давялося перанесці ў іншыя месцы. А пытанне аб правядзенні вечарыны Ізі Харыка «паўстала рубам». Ісці на канфлікт з Аб'яднаннем яўрэйскіх абшчынаў і амбасадай Ізраіля начальнік Адміністрацыйнага корпуса не адважылася і дала дазвол на правядзенне вечарыны.

Вялікая зала, у якой мелася адбыцца вечарына, пасля наўмысна распачатага рамонту нагадвала будаўнічую пляцоўку. Дзесяць гадоў таму на 90-ыя ўгодкі Ізі Харыка, калі яўрэйская грамадскасць упершыню на поўны голас заявіла аб сваіх праблемах, адміністрацыя Дома літаратара баялася правакацый, але на гэты раз паўстала іншая задача: як прывесці ў належны стан памяшканне. Дзякуючы карпатлівай працы загадчыцы метадычнага аддзела І.Марачкінай і супрацоўнікаў Дома літаратара, сцэна і зала былі падрыхтаваныя, і 17 сакавіка а 18-ай гадзіне сюды пачалі збірацца прыхільнікі паэтычнага таленту Ізі Харыка.

Чакаемага аншлагу, які назіраўся на ранейшых вечарынах з удзелам яўрэйскіх аб'яднанняў, не адбылося. Гледачы пераважна сталага ўзросту павольна займалі месцы ў зале. 100-ыя ўгодкі класіка яўрэйскай літаратуры не маглі абмінуць і беларускія літаратары. За пяць хвілінаў да пачатку са службовага ўваходу зайшоў Народны пісьменнік Беларусі Іван Шамякін. Калі на сцэне з'явілася супрацоўніца тэлебачання і гучна абвясціла: «Каб зняць карцінку, вам патрэбна сесці шчыльна!», Іван Пятровіч крыху памарудзіў перад камерай, але ж сеў у першым радзе. Ніл Гілевіч доўга не разважаў і прысеў у крэсла другога раду (ён пачаў займаць гэтае месца пасля таго, як пакінуў пасаду першага сакратара СП). Крыху няўтульна адчуваў сябе цяперашні старшыня СП Беларусі Васіль Зуёнак, абраны вядучым вечарыны. Быццам бы і гаспадар, але ж з 1 сакавіка як госць ва ўласнай хаце. У адрозненне ад мэтраў беларускай літаратуры, годна выглядаў публіцыст і журналіст Сямён Букчын. Пачуўшы слова «Шалом», ён прайшоў праз усю залу і заняў месца паблізу рабіна Мінскай сінагогі.



*Ізі Харык нарадзіўся ў 1898 годзе ў мястэчку Зембін у сям'і шаўца. У 1927 годзе скончыў Маскоўскі дзяржаўны універсітэт і пачаў працаваць у яўрэйскіх газетах Расіі і Беларусі. З 1928 па 1937 год Ізі Харык працаваў рэдактарам часопіса «Штэрн» у Мінску, пісаў вершы і артыкулы на яўрэйскай, беларускай і рускай мовах. Аўтар больш як 10 кнігаў. У 1937 годзе І.Харык быў арыштаваны і загінуў у пастарунках НКВД. Пасмяротна рэабілітаваны ў 1956 г.*

Вечарына распачалася традыцыйна. Васіль Зуёнак азнаёміў прысутных са старажытнай гісторыяй яўрэйскага народа і тых галінак яго культуры, якія прыжыліся на беларускай зямлі. Але ж, каб асабліва не засяроджваць на сабе ўвагу, перадаў слова другому вядучаму — архітэктару Леаніду Левіну. У сваю чаргу Леанід Мэндэлевіч выказаў удзячнасць арганізатарам вечарыны, кіраўніцтву СП і ўсім прысутным. Пра жыццё і творчасць паэта Ізі Харыка распавёў ягоны творчы паслядоўнік паэт Рыгор Рэлес, які працягвае традыцыі свайго духоўнага настаўніка. Вязень сталінскіх лагераў паэт Сяргей Грахоўскі нагадаў прысутным пра апошнія дні Ізі Харыка, які быў расстраляны ў 1937 годзе. У той дзень разам з Ізі Харыкам загінулі дванаццаць беларускіх літаратараў.

Увесь вечар гучалі вершы Ізі Харыка ў перакладзе на беларускую мову. Але ж таго эмацыйнага ўздыму, які назіраўся на ранейшых вечарынах, ужо не адчувалася.

На заканчэнне афіцыйнай часткі вечарыны слова ўзяла ўдава Ізі Харыка. Яна пачала выказваць словы вялікай удзячнасці ўсім, каму магчыма, у тым ліку і прэзідэнту Лукашэнку, толькі за што — ніхто з прысутных не зразумеў.

**Мікола КАЧАН**

# У партрэтах Радзівілаў ажывае гісторыя

**У гонар 775-годдзя Нясвіжа народны мастак Беларусі Уладзімір Стальмашонак стварыў вялікі цыкл карцінаў — галерэю партрэтаў самых знакамітых прадстаўнікоў славутага роду Радзівілаў. Разам з замалёўкамі архітэктурных помнікаў Нясвіжа гэтыя партрэты можна пабачыць на выставе, што адчынілася ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі.**

Уладзімір Стальмашонак імкнецца зафіксаваць усе свае ўражанні на паперы або палатне. Ідэя цяперашняй выставы нарадзілася якраз тады, калі мастак адпачываў у Нясвіжы і, па старой звычцы, замалёўваў краявіды старажытнага горада. Захапіўшыся архітэктурнай прыгажосцю, Стальмашонак зацікавіўся таксама даўняй гісторыяй Нясвіжа і ягонымі былымі гаспадарамі — Радзівіламі. Так пачалася работа над сучаснымі партрэтамі магнатаў старадаўняй Беларусі.



*Уладзімір Стальмашонак.*

Па прызнанні мастака, ён падзяляе думку драматурга Аляксея Дударава, што *«ў Беларусі багатая гісторыя, і няма толькі свайго Шэкспіра, каб яе ўвасобіць у мастацкіх вобразах»*. Уладзіміра Стальмашонка таксама натхняе прыклад польскага жывапісца Яна Матэйкі, які яшчэ ў XIX стагоддзі стварыў шэраг запамінальных палотнаў, прысвечаных яскравым падзеям гісторыі сваёй краіны. Як лічыць Стальмашонак, Беларусь пакуль яшчэ чакае свайго Матэйку.

У дзень адкрыцця выставу наведалі ганаровыя госці — сябры і калегі мастака, дзеячы беларускай культуры. Яны скарысталіся нагодай, каб павіншаваць Уладзіміра Іванавіча з нядаўнім 70-гадовым юбілеем, а таксама выказалі свае думкі пра ягоныя новыя работы. *«Я ўражаны тым, што з партрэтаў на мяне глядзяць жывыя вочы,* — сказаў вядомы рэжысёр Барыс Луцэнка. — *Сапраўды, Стальмашонак ажывіў гісторыю!»* А намеснік міністра культуры Васіль Гедройц адзначыў, што Беларусі вельмі патрэбнае адкрыццё невядомых старонак гісторыі, што робіць Уладзімір Стальмашонак.

Пабывалі на выставе таксама нясвіжцы — прадстаўнікі мясцовых уладаў і супрацоўнікі мастацкага музея. Як паведаміў карэспандэнту НАВІНАЎ намеснік старшыні Нясвіжскага райвыканкама Леанід Максімчык, Уладзімір Стальмашонак мае ўжо нямала персанальных заслугаў перад горадам-юбілярам: народны мастак актыўна ўдзельнічае ва ўсіх святах і фестывалях, што праходзяць у Нясвіжы. Каля 15 ягоных работ упрыгожваюць цяпер Нясвіжскі палац. Па словах Максімчыка, *«Уладзімір Стальмашонак сапраўды зрушыў культурнае жыццё нашага горада»*. Мяркуецца, што ў ліпені, падчас юбілейных урачыстасцяў, выстава партрэтаў Радзівілаў будзе экспанавацца і ў Нясвіжы.

**Алена СУРКО**

**АФІША**

# Фестываль юнай музыкі

З 23 па 29 сакавіка ў Мінску пройдзе фестываль «Мастацтва — дзецям і моладзі», галоўныя падзеі якога павінны адбыцца ў Канцэртнай зале філармоніі. 23-га пад мастацкім кіраўніцтвам народнага артыста СССР Віктара Роўды тут пройдзе 5-е харавое свята школаў Мінска. 24-га выступяць скрыпачы з Расіі Аляксей Нагавіцкі і Антон Сарокаў і з Украіны — Ганна Савіцкая, якія будуць іграць разам з Дзяржаўным акадэмічным сімфанічным аркестрам Беларусі.

Бадай, самымі цікавымі ў гэтыя дні будуць канцэрты своеасаблівага «фестывалю ў фестывалі»: 26 і 27 сакавіка ў Канцэртнай зале філармоніі будзе прадстаўленая дзіцячая эстрадная песня Беларусі. Маленькія «зоркі эстрады» з розных гарадоў і вёсак краіны выступяць у суправаджэнні самога Канцэртнага аркестра Міхаіла Фінберга.

У Зале камернай музыкі 24 сакавіка дадуць канцэрт маладыя музыканты А.Яцына (скрыпка) і Ц.Сергеення (фартэпіяна).

### ТЭАТРЫ

У Тэатры імя Янкі Купалы 20 сакавіка пройдзе «Лес». 21-га ў купалаўцаў прэм'ера — «Інтымны тэатр Еўсцігнея Міровіча», імпрэза, прысвечаная 120-годдзю з дня нараджэння заснавальніка тэатра. У нядзелю, 22 сакавіка пройдуць ажно тры спектаклі — «Карлік Нос» (11:30) і «Лэдзі Нявіннасць» (19:00) на Вялікай сцэне і «Крывавая Мэры» — на Малой сцэне. 23 сакавіка — «Нежанаты мнагажэнец», 25 і 26 — «Памінальная малітва» і 26-га — таксама «Чароўная ноч» (Малая сцэна).

Рускі тэатр запрашае паглядзець 20-га «Свабодны шлюб», 24-га пройдзе «Ад'ютант-Ша Яго Вялікасці», 25-га — «Мадам, месье і...», 26-га — «Амфітрыён». У Маладзёжным тэатры 20 і 21 сакавіка «Сакрэт Шахразады», 24-га — «Прыйшоў мужчына да жанчыны», 26-га — «Я жадаю быць каханай». На «Вольнай сцэне» 24 сакавіка — «Vita brevis, або Нагавіцы Святога Георгія», 25-га — «Рычард», 26-га — «Лекар паняволі». Тэатр-студыя кінаакцёра прадстаўляе 20 і 21 сакавіка «Айседора. Танец кахання», а 22-га — «Таланты и поклонники».

У Тэатры оперы і балета 20 сакавіка балет «Рамэо і Джульета». 21-га раніцай опера для дзяцей «Чароўная музыка», а ўвечары для дарослых — «Травіята». 22-га раніцай балет «Тры парсючкі» і а 19-й гадзіне вечарына аднаактовых балетаў — «Вясна свяшчэнная» і «Карміна Бурана». 24 сакавіка пройдзе опера «Чароўная флейта». 25-га ў 11:30 балет «Чыпаліна», а ўвечары — таксама балеты, «Кругаверць» і «Прывал кавалерыі». 26-е сакавіка таксама будзе днём оперы, раніцай — «Кот у ботах», увечары — «Яўген Анегін».

Тэатр музычнай камедыі чакае вас 21 сакавіка на «Вясёлую ўдаву», у нядзелю, 22-га раніцай пройдзе музычная казка «Прыгоды ў замку алфавіт», а ўвечары — «Марыца», 24-га — «Цыганскі барон», 25-га — вечарына балетаў («Шапэніяна», «Кармэн-сюіта» і «Новыя амазонкі» на музыку славутага «Балеро» М.Равэля). 26 сакавіка — класічная аперэта «Прынцэса цырка».

### КАНЦЭРТЫ, КОНКУРСЫ

Генадзь Хазанаў даўно ўжо ператварыўся з «студэнта кулінарнага тэхнікума» ў сапраўднага «юбілейнага генерала». Ён абавязкова выступае з адмысловымі гумарыстычнымі мініяцюрамі на юбілеях літаральна ўсіх паважаных (і паважаючых сябе) людзей. А потым гэтыя юбілейныя віншаванні тыражуюцца як свежы прадукт расійскай эстрады. 21 сакавіка Хазанаў выступіць з праграмай «Юбілеі» ў беларускай сталіцы, у канцэртнай зале «Мінск». Пачатак а 19-й гадзіне, кошт квіткоў ад 300 тысячаў да 1 млн. 300 тысячаў рублёў.

У гэты ж дзень, 21 сакавіка, у Палацы культуры трактарнага завода дасць канцэрт наш папулярны гурт «Ляпис Трубецкой». Кошт квіткоў таксама 300 тысячаў, пачатак а 19-й гадзіне.

24 сакавіка ў памяшканні Тэатра імя Янкі Купалы пройдзе тэатральны конкурс «Прызнанне ў каханні». Пачатак а 19-й гадзіне. Квіткі каштуюць ад 50 да 80 тысячаў рублёў.

**Ганна ШЫМЕЛЕВІЧ**

